# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

28 ЛІСТАПАДА 1992 г. субота, № 237 (22015)


**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 8.00, 15.56, 7.56;
Віцебск — 7.56, 15.39, 7.43;
Магілёў — 7.49, 15.45, 7.56;
Гомель — 7.41, 15.49, 8.08;
Гродна — 8.15, 16.11, 7.56;
Брэст — 8.07, 16.20, 8.13.

**МЕСЯЦ:**

Маладзік 24 лістапада.

**ІМЯНІНЫ**

Гурыя, Паісія, Маркела, Дзмітрыя

# РОЗГАЛАС

## ПАГАНДЛЯВАЛІ ВАЛЮТАЙ РУБЛЁВАЙ ЗОНЫ

### За 100 расійскіх рублёў давалі 110 беларускіх

25 мільёнаў рублёў было прапанавана купіць на першых таргах па гандлю расійскай безнаяўнай валютай, якія правяла Беларуская фондавая біржа. Як адзначылі на ёй, жадаючых купіць было больш, чым прадаць. Першапачаткова быў наступны курс: за 100 расійскіх рублёў давалі 104 беларускіх, потым ён устанавіўся на адзнацы 100:110.

У Нацыянальным банку падкрэслілі: па выніках першых таргоў яшчэ нельга што-небудзь пэўнае сказаць. Трэба пачакаць наступных таргоў, прычым нават некалькіх. Тым не менш, можна меркаваць: калі ўлічваць нашу залежнасць ад расійскіх сыравінных рэсурсаў і адпаведны попыт на іх, а таксама тое, што цэны на гэтыя рэсурсы лезуць уверх, патрэба беларускіх прадпрыемстваў і банкаў у расійскіх рублях будзе немалая. Хутчэй за ўсё, многія, хто зарабляе на расійскім рынку, не будуць спяшацца развітацца з расійскімі безнаяўнымі рублямі. Ва ўсякім выпадку на першым часе, пакуль больш дакладна вызначыцца курс. А ён будзе залежыць ад міжрэспубліканскага гандлёвага балансу, пакупніцкай здольнасці беларускага і рускага рублёў, іх таварнай напоўненасці і іншых фактараў.

Відаць, больш рэальная карціна вызначыцца, калі на падобных таргах будуць шырока прадстаўлены расійскія прадаўцы сваёй валюты і пакупнікі беларускай. Вядома, з улікам таго, што іх адносіны з нашымі пакупнікамі і прадаўцамі будуць будавацца самастойна, незалежна ад палітычнай кан'юнктуры, г. зн. на аснове чыста прагматычнай, гаспадарчай мэтазгоднасці набыцця той ці іншай валюты.

## ВЕДАЙ НАШЫХ

БАРАНАВІЧЫ. Нядаўна былі прыемна здзіўлены жыхары горада, калі атрымалі прапанову ўстанавіць сяброўскія сувязі з далёкім аргенцінскім горадам Кататас.

Як потым высветлілася, сігнал такі прыйшоў у гэты беларускі горад не выпадкова: у Аргенціне пражывае шмат баранавічан, якія змянілі месца жыхарства ўжо некалькі дзесяцігоддзяў таму назад.

Некаторыя эмігранты з Баранавіч ці то жартам, ці ўсур'ёз кажуць, што ў Буэнас-Айрэсе, сталіцы гэтай паўднёваамерыканскай дзяржавы, ёсць рэстаран «Баранавічы».

Вось так, ведай нашых!

## ДАЛЕЙ БРЭСТА НЕ ЎЦЯЧЭШ?

Паводле інфармацыі газеты «Вечерний Брест», першыя беженцы ў гэтым горадзе з'явіліся яшчэ ў самым пачатку карабахскіх падзей 1988 года. Сёння іх тут налічваецца некалькі тысяч. Большая частка тых, хто ўжо атрымаў статус беженца, — рускамоўныя жыхары ахопленых вайной рэгіёнаў, а таксама сем'і вайскоўцаў. Многія з іх маюць у гэтым беларускім горадзе сваякоў і блізкіх або некалі жылі ў Беларусі.

**БелаПАН.**

## Створана Беларуская асацыяцыя ўкраіністаў

**Правяла свой першы арганізацыйны сход Беларуская асацыяцыя ўкраіністаў—арганізацыя, якая будзе працаваць пры Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны як адна з нацыянальных філій Міжнароднай асацыяцыі ўкраіністаў. Беларускія ўкраіністы вызначылі свае задачы: вывучэнне і прапаганда духоўнай і матэрыяльнай культуры ўкраінскага народа, ведаў пра Украіну, даследаванне і далейшае мацаванне беларуска-украінскіх культурных узаемасувязей. Выбраны камітэт Беларускай асацыяцыі ўкраіністаў. Яго старшынёй стала вядомая даследчыца беларуска - украінскіх літаратурных узаемасувязей, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта Таццяна Кабржыцкая.**

## УСЁ ПРА КАШТОЎНЫЯ ПАПЕРЫ

**3 снежня ў Мінску пачне работу міжнародная канферэнцыя «Рынак каштоўных папер у постсацыялістычнай эканоміцы». Галоўная мэта канферэнцыі — абмен вопытам па фарміраванню такога рынку ў дзяржавах СНД і ўсходнееўрапейскіх. Падчас канферэнцыі будуць працаваць секцыі: «Дзяржаўнае рэгуляванне рынку каштоўных папер», «Прыватызацыя дзяржаўнай уласнасці і рынак каштоўных папер», «Замежныя інвестыцыі на фінансавых рынках СНД і Балтыі», «Дзейнасць фондавых біржаў і прафесіянальных удзельнікаў рынку каштоўных папер». На ёй будуць абмеркаваны пытанні абарачэння на фінансавым рынку ваўчэраў, магчымасцей і перспектыў рэалізацыі ў краінах СНД і Балтыі замежных каштоўных папер і іншыя, яна абяцае азнаёміць з рэальным становішчам на рынку каштоўных папер Беларусі. На канферэнцыю маюць намер прыехаць заходнія фінансавыя спецыялісты, якія, няйначай, выступяць у ролі настаўнікаў.**

## МАСКОЎСКІЯ БЕЛАРУСЫ ЎШАНАВАЛІ ЯКУБА КОЛАСА

Яшчэ нядаўна Масква адзначала ўсе «круглыя» юбілеі выдатнейшых дзеячаў нацыянальных культур былога СССР. І няхай у гэтым было нямала знешняй пампезнасці, непатрэбных намаганняў «для птушачкі», усё ж юбілейныя мерапрыемствы (вечары, выстаўкі, лекцыі і г. д.) прыносілі немалую карысць, мацавалі руска-іншанацыянальныя культурныя ўзаемасувязі. Цяпер жа Масква, ці то занятая ўнутрыпалітычнымі спрэчкамі, ці то крыўдуючы за зніжэнне сталічнага статуса, ці па нейкай іншай прычыне амаль перастала заўважаць «іншародцаў».

Не прайшлі ў гэтым годзе ў Маскве і афіцыяльныя вечары, прысвечаныя 110-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. І ўсё ж у Маскве нашых класікаў успомнілі — дзякуючы найперш намаганням мясцовых беларускіх грамадскіх арганізацый («Бацькаўшчына», «Пагоня», Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны), а таксама Пастаяннаму прадстаўніцтву Рэспублікі Беларусь пры ўрадзе Расійскай Федэрацыі. У прыватнасці, у мінулую суботу гэтыя арганізацыі наладзілі цікавы юбілейны Коласаўскі вечар у будынку Цэнтральнага Дома літаратара. На запрашэнне маскоўскіх беларусаў адгукнулася цэлая кагорта дзеячаў культуры з Мінска. Прадстаўнікі сямідзесяцітысячнага беларускага насельніцтва Масквы, якія запоўнілі вялікую залу ЦДЛ, уважліва слухалі «Слова пра Якуба Коласа» намесніка старшыні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» прафесара В. Рагойшы, развагі пра народнага паэта пісьменніка А. Кажадуба, з захапленнем сустракалі кожны нумар мастацкай праграмы, у якой удзельнічалі заслужаныя артысты рэспублікі А. Лявончык, І. Краснадубскі, кампазітар А. Рашчынскі, артысты Я. Навуменка, Н. Мікуліч, М. Казінін, З. Белахвосцік і інш. Вялікую асалоду прысутным прынесла выступленне гурта народнай песні «Купалінка». Як і трэба было чакаць, вершы Якуба Коласа, песні на словы народнага паэта карысталіся найбольшым поспехам. Дарэчы, у той вечар якраз адбылася прэм'ера адной такой песні — «Роднаму краю» Ігара Лучанка. Выканаў яе І. Краснадубскі.

**В. ПЯТРОВІЧ.**

## ДЭМАКРАТЫЯ ПА-ІВАЦЭВІЦКУ. ПОГЛЯД ДРУГОГА БОКУ

22 верасня 1992 года ў «Звяздзе» была надрукавана заметка журналіста Рэспубліканскага радыё Юрыя Рабчука «Дэмакратыя па-івацэвіцку». У ёй гаварылася аб незаконным звальненні рэдактарам райгазеты «Івацэвіцкі веснік» Р. Радзюком журналістаў, якія ў чарговы раз выказалі яму недавер і напісалі пра гэта ў Вярхоўны Савет РБ. Пра заціскание крытыкі, забарону друкаваць на старонках «Івацэвіцкага весніка» аб'ектыўнай інфармацыі аб партыйна-савецкай «прыхватызацыі» і карупцыі ў дзяржаўных установах... Далей Юрый Рабчук піша, што Р. Радзюк, які падтрымаў ГКЧП, адчуваючы поўную падтрымку з боку дэпутатаў райсавета, распраўляецца з астатнімі непажаданымі супрацоўнікамі.

6 кастрычніка ў рэдакцыю «Звязды» прыйшло абвяржэнне, якое падпісаў рэдактар райгазеты і 9 супрацоўнікаў (з 9 супрацоўнікаў толькі 3 творчыя, астатнія — тэхнічныя). Аўтары ліста не згодныя з пазіцыяй, якую заняў Рабчук у апісанні становішча ў калектыве «Івацэвіцкага весніка», і патрабуюць «пакарання журналіста» за скажоную інфармацыю. Узгадвае рэдактар райгазеты ў абвяржэнні і тое, што калісьці Рабчук быў выдалены з сесіі райсавета за неэтычныя паводзіны.

Рэдакцыя «Звязды» ў даным выпадку не збіраецца выступаць у ролі трацейскага суддзі. Тым больш, што плёнкі з матэрыяламі аб злоўжыванні службовым становішчам мясцовых кіраўнікоў і рэдактара Р. Радзюка Юрый Рабчук перадаў у Рэспубліканскую пракуратуру і Камісію па галоснасці Вярхоўнага Савета РБ.

## УСТАНОЎЛЕНЫ ДЫПАДНОСІНЫ З ПАРАГВАЕМ

Як нам паведамілі з аддзела інфармацыі МЗС рэспублікі, паўнамоцныя прадстаўнікі Беларусі і Парагвая ў Нью-Йорку падпісалі пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж дзвюма дзяржавамі. Гэта рашэнне ўступае ў сілу з часу падпісання дакумента.

**БЕЛІНФАРМ.**

## ТВОРЧАЯ БАГЕМА ТАКСАМА СУПРАЦЬ СНІДУ

На гэтым тыдні пачалася акцыя «Дзеячы культуры і мастацтва супраць СНІДу». На заклік Беларускага цэнтра прафілактыкі СНІДу адгукнуліся многія вядомыя артысты, калектывы. Магчыма, з дапамогай п'ес, фільмаў, музыкі і жывапісу ўдасца змяніць фатальна абыякавыя адносіны грамадства да праблемы СНІДу, тым больш, што яна ўжо выйшла за рамкі ўласна медыцынскай.

Мерапрыемствы акцыі ідуць на розных пляцоўках, кожны калектыў выступае перад сваёй аўдыторыяй. Такім чынам, зацікаўлены людзі розных узростаў і сацыяльных статусаў. На сваіх пляцоўках перад студэнтамі выступяць творчыя калектывы мінскіх ВНУ. Плануецца правядзенне вечара адпачынку для моладзі і дабрачыннай дыскатэкі.

У рамках акцыі — таксама прагляды кінастужак і творчыя сустрэчы з вядомымі кінарэжысёрамі Кірай Муратавай, Сяргеем Рахманіным, Юрыем Садомскім, Ігарам Апанасянам, Міхаілам Кацам і прадзюсерам Яўгенам Палынчуком.

Прыняць удзел у акцыі згадзіліся тэатр Юрыя Тамашэўскага з Санкт-Пецярбурга і мінскі Альтэрнатыўны тэатр, спявачка Алена Камбурава.

Прайшлі канцэрты ансамбля «Класік Авангард» і Мінскага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам В. Бартноўскага.

Арганізатары ставілі перад сабой задачу стварэння пастаяннa дзеючага фонду «Дзеячы культуры і мастацтва супраць СНІДу, які шляхам дабрачыннасці і спонсарства забяспечыў бы ўдзел творчай багемы ў прапагандзе прафілактыкі СНІДу.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## «БЕРАСЦЕЙСКІ РОК—КІРМАШ-92»

Менавіта так будзе называцца фестываль беларускай маладзёжнай музыкі, які адбудзецца ў Брэсце 28—29 лістапада. У ім прымуць удзел такія слынныя групы, як мінскія «Уліс», «Крама», «Мроя», «Новае неба», наваполацкі «Мясцовы час», віцебскі «Вакзал», а таксама гурты Берасцейшчыны і госці з Польшчы і Германіі.

Сярод спонсараў фестывалю: БММТ «Спутнік», гандлёвае прадпрыемства «Акіян-Поліш», фірма «Прыгранічны сервіс» і іншыя.

**БелаПАН.**

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Як мага хутчэй...

«Ад хутчэйшага прыняцця Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб кіруючага і радавога саставу органаў унутраных спраў» залежыць будучыня беларускай арміі», — аднназначна заявіў у выступленні перад абмеркаваннем гэтага законапраекта міністр абароны Беларусі Павел Казлоўскі.

Пярэчанняў як наконт даклада міністра, так і па законапраекту ў дэпутатаў не было. Закон прынялі ў першым чытанні.

У гэты дзень дэпутаты быццам ішлі на рэкорд па абмеркаванню законапраектаў. Адправіўшы на дапрацоўку праект закона «Аб ахове навакольнага асяроддзя ў Рэспубліцы Беларусь», яны з першага заходу і амаль не дэбатуючы прынялі ў першым чытанні законапраект «Аб дзяржаўнай экалагічнай экспертызе».

Гарачую зацікаўленасць парламентарыяў выклікаў разгляд праекта закона «Аб абароне правоў спажыўцоў», прадстаўленага намеснікам міністра юстыцыі Беларусі Валянцінай Подгруша. Па справядлівай заўвазе дэпутата Дзмітрыя Булахава, прыняцце гэтага доўгачаканага дакумента стане палітычным капіталам цяперашняга Вярхоўнага Савета. Бо, нарэшце, ствараюцца прававыя ўмовы для сапраўды рыначнай, а не базарнай эканомікі.

Гэты законапраект, як, зрэшты, і абмеркаваны следам за ім «Аб дзяржаўным доўгу Рэспублікі Беларусь» былі хутка прыняты дэпутатамі ў першым чытанні.

***

Свой рабочы дзень 27 лістапада парламентарыі некалькі «перакроілі». Адмовіўшыся ад своеасаблівай ранішняй размінкі ў выглядзе абмеркавання раздзела «Рознае», яны адразу ж пачалі разгляд законапраекта «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь».

Прадстаўляючы гэты дакумент, старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч сказаў, што дзеючаму цяпер закону амаль два гады, і ён у многім устарэў, паколькі прымаўся яшчэ пры існаванні СССР, адзінай крэдытна-фінансавай сістэмы. Сёння ж не толькі іх, але нават і рублёвай зоны ўжо практычна няма.

Станіслаў Багданкевіч выказаўся і за ўзмацненне нагляду з боку Нацыянальнага банка за дзейнасцю камерцыйных банкаў: «Калі ў адным і тым жа камерцыйным банку аднаму даюць крэдыт пад паўпрацэнта, а другому — пад 50 працэнтаў, то гэта не камерцыйная тайна. Гэта карупцыя. Нельга дазваляць такую «свабоду».

Станіслаў Багданкевіч лічыць, што трэба ўстанавіць забарону на ўдзел у органах кіравання банкаў службовых асоб з органаў кіравання дзяржаўнай улады.

Адным словам, прамоўца не ўтойваў сваёй пазіцыі — заканадаўча замацаваць права Нацыянальнага банка ўзмацніць нагляд за дзейнасцю камерцыйных банкаў.

Апанентамі Станіслава Багданкевіча выступілі прэзідэнт асацыяцыі камерцыйных банкаў Беларусі Яўген Купчын і старшыня праўлення Знешэканомбанка Беларусі Генадзь Алейнікаў. На іх думку, прапанаваныя дэпутатам змяненні ў закон накіраваны на манаполію і дыктат Нацыянальнага банка.

Усё ж у ходзе дэбатаў верх узяў разважны сэнс. Разумеючы, што калі пытанні эканамічныя доўга не вырашаюцца, то яны становяцца палітычнымі, дэпутаты стараліся знайсці кампраміс пры абмеркаванні паправак да дзеючага закона. На думку Уладзіміра Заблоцкага, прымаючы рашэнне аб падпарадкаванні сабе Нацыянальнага банка, Вярхоўны Савет недакладна сфармуляваў яго палітыку. Гэтаму банку, як цэнтральнаму, трэба даць галоўную функцыю — забеспячэнне ўстойлівасці крэдытна-фінансавай і валютнай сістэмы дзяржавы. Таму што менавіта банкаўская сістэма з'яўляецца крывяноснай для эканомікі, і калі такая сістэма не функцыяніруе, то эканоміка не можа існаваць.

**БЕЛІНФАРМ.**

# На шляху да рынку

Першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў Беларусі Міхаілам Мясніковічам зацверджана праграма мер, якія забяспечваюць развіццё рынку каштоўных папер і функцыяніравання фондавых біржаў на аснове раздзяржаўлення і прыватызацыі па чэках.

У адпаведнасці з праграмай ужо да студзеня наступнага года будуць, у прыватнасці, вызначаны агульны кошт асноўных сродкаў, што падлягаюць передачы насельніцтву ў выглядзе прыватызацыйных чэкаў, распрацаваны і зацверджаны палажэнні аб камерцыялізацыі дзяржпрадпрыемстваў з пераўтварэннем іх у акцыянерныя таварыствы адкрытага тыпу, а таксама аб холдынгавых кампаніях, ствараемых на аснове дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый. У гэтыя ж тэрміны прадугледжана арганізаваць работу Беларускай фондавай біржы і брокерскіх кантор па прыватызацыі і акцыяніраванню.

Да канца 1 квартала 1993 года плануецца скласці каляндарныя спісы аб'ектаў, якія падлягаюць прыватызацыі чэкамі, і вызначыць сістэму інфармавання насельніцтва па гэтых пытаннях, распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб спецыяльных інвестыцыйных фондах, акумулюючых прыватызацыйныя чэкі грамадзян.

У трохмесячны тэрмін пасля прыняцця Законаў Рэспублікі Беларусь «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці» і «Аб імянных прыватызацыйных чэкавых кніжках» будуць складзены спісы грамадзян, якія маюць права на атрыманне прыватызацыйных чэкавых кніжак.

**СЛУЖБА ІНФАРМАЦЫІ САВЕТА МІНІСТРАЎ.**

## *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

### Аб зацвярджэнні Часовых правіл увозу грамадзянамі на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і вывазу за межы гэтай тэрыторыі прадметаў, валюты і каштоўнасцей

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць прыкладаемыя Часовыя правілы ўвозу грамадзянамі на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і вывазу за межы гэтай тэрыторыі прадметаў, валюты і каштоўнасцей.

Увесці ў дзеянне ўказаныя Часовыя правілы з 1 снежня 1992 г.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

23 лістапада 1992 г. г. Мінск.

# Падтрымаць культуру— справа дзяржаўнай важнасці

Ва ўсе часы культура была носьбітам духоўнасці народа, тым тонкім пластам грамадства, які акумуляваў у сабе ўсё самае лепшае і передавое, а яе творцы —самаадданымі людзьмі сваёй Бацькаўшчыны. У розныя перыяды да культуры ўлады ставіліся па-рознаму, але ні ў якія часы ніхто не змяншаў яе ролі ў грамадстве. Гэтую аксіёму разумелі кіруючыя ўлады, якія імкнуліся ў той ці іншай ступені падтрымаць яе. Але, як казаў вядомы класік: быў час, быў век, была эпоха... Праўда, нам пакуль нестае часу крытычна прааналізаваць і ўзяць усё станоўчае з недалёкай мінулай эпохі.

Пасля развалу былога цэнтра Беларусь набыла разам з незалежнасцю і суверэнітэтам рэальную мажлівасць нацыянальнага духоўнага Адраджэння, і мастацтва з'яўляецца адным з галоўных яго чыннікаў. Але, аналізуючы сённяшні стан у сферы мастацтва, нельга не прыйсці да высновы, што гэтая сфера патрабуе асаблівай увагі і самае галоўнае — дапамогі, і не толькі дзеля таго, каб не даць загінуць мастацкаму асяродку, падтрымаць саміх творцаў. Тут трэба глядзець шырэй і на перспектыву: ад таго, як мы сёння адносімся да мастацтва, — у рэшце рэшт будзе залежыць поспех нашых эканамічных праграм, а значыць і нашай будучыні.

Творчая асоба, мастак, як носьбіт не матэрыяльных, а духоўных каштоўнасцей, застаўся самай неабароненай ва ўмовах рынку. Сёння ўсе і ўся кінуліся рабіць грошы ў сферу так званых рынкавых адносін, па стварэнню розных СП і г. д. Нават тыя кволыя працэнты з бюджэту, якія выдзяляліся на культуру, не могуць выратаваць становішча і яна засталася па-за ўвагай. Раней кіраўнікі прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў больш-менш клапаціліся пра мастацкае асяроддзе сваіх культурных устаноў, вольны час сваіх працаўнікоў, усяляк падтрымлівалі мастацтва і яго творцаў. Зараз гэта адсутнічае. Мы стаім перад рэальнай пагрозай знікнення ў нашай рэспубліцы мастацтва.

У гэтым годзе ўрадам былі зроблены канкрэтныя захады па падтрымцы творчых Саюзаў фінансавай дапамогай. Але такія аднаразовыя грашовыя выдаткі не вырашаюць праблему жыццядзейнасці, будучыні творчых Саюзаў і Беларускага Фонду культуры. Неабходна, як у Расійскай Федэрацыі, вызваліць творчыя Саюзы, Беларускі Фонд культуры ад усіх відаў падаткаў. Тое падаткаабкладанне, якое існуе сёння і якое прыносіць у дзяржаўную кішэню каля 15 мільёнаў рублёў, у рэшце рэшт паставіць творчыя Саюзы на грань ліквідавання, а грамадства страціць апошняе, што яшчэ жывіць і што трымае ўсіх нас, — духоўнасць, свае карані. Неабходна падкрэсліць, што і большасць дэпутацкага корпусу правільна разумеюць сітуацыю, у якой апынулася мастацтва Беларусі. З боку ўрада прымаліся канкрэтныя захады аб вызваленні творчых Саюзаў ад некаторых відаў падаткаў яшчэ на мінулай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Зараз, з набыццём сваёй дзяржаўнасці, мы імкнёмся да таго, каб займець свой пачэсны пасад сярод народаў свету. І для нас у ліку галоўных прыярытэтаў неабходна захаваць мастацтва, творчыя набыткі не толькі папярэдніх пакаленняў, але і дбаць пра лёс сённяшняй творчай моладзі і тых, хто прыйдзе ёй на змену. Для гэтага павінна дзейнічаць дзяржаўная культурная палітыка, прычым неабходна паразуменне па гэтай важнай праблеме па ўсёй вертыкалі ўлады — ад вышэйшай да мясцовай. Дзяржава павінна ўзяць на сябе галоўны клопат пра нацыянальнае мастацтва, пра стан яго захавання і перспектыву развіцця.

На Беларусі адпрацавана дакладная сістэма падрыхтоўкі прафесіянальных кадраў мастацтва на розных узроўнях і па розных спецыяльнасцях, да нас едуць за вопытам з блізкага і дальняга замежжа, накіроўваюць на вучобу студэнтаў з многіх краін свету. Творчыя калектывы беларускіх тэатраў, эстрады, творы кінематографа, выяўленчага мастацтва і г. д. маюць шырокую вядомасць у свеце як высокапрафесійнага мастацтва не толькі еўрапейскага ўзроўню, але і вышэй. Без перабольшвання можна сказаць, што прафесійнае мастацтва нашых творцаў сёння канкурэнтна-здольнае па самаму высокаму рахунку і пра гэта трэба гаварыць у поўны голас і па праву гэтым ганарыцца.

Беларусь у ліку першых рэспублік былога Саюза, хто прыняў у 1991 г. Закон «Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь». Іншая справа, што яшчэ і сёння да канца неўсвядомілі своечасовасці і важнасці гэтага акту, бо мы ў поўны голас на ўвесь сусвет з высокай парламенцкай трыбуны засведчылі, што з'яўляемся цывілізаваным грамадствам і ў лік прыярытэтных законатворчых актаў паставілі і Закон аб культуры. У варунках нацыянальнага Адраджэння гэты Закон мае вялікае значэнне. Гэта, безумоўна, мелі на ўвазе і нашы народныя выбраннікі, калі прымалі і галасавалі за яго, а значыць і за будучыню сваёй дзяржавы. Ім застаецца зрабіць і другі крок, ад якога будзе залежыць жыццё прафесійнага мастацтва Беларусі.

Нядаўна адбылася сустрэча прадстаўнікоў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, творчай інтэлігенцыі з членамі Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, дзе былі ўсебакова разгледжаны пытанні жыццядзейнасці творчых Саюзаў, іх падаткаабкладанняў. У выніку было прынята адпаведнае рашэнне, якое будзе вынесена на разгляд дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання.

Мы спадзяёмся на паразуменне ўсіх дэпутатаў беларускага парламента, якім неабыякавы далейшы лёс нацыянальнага мастацтва.

**Уладзімір ПРАКАПЦОЎ, намеснік начальніка ўпраўлення па справах сацыяльна-культурнага комплексу Упраўлення Справамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

## *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

### Аб дадатковых мерах па дзяржаўнаму рэгуляванню і кантраляванню дзейнасці суб'ектаў гаспадарання

Павелічэнне колькасці суб'ектаў гаспадарання недзяржаўнай формы ўласнасці ва ўмовах адставання ў фарміраванні неабходнай нарматыўна-прававой базы суправаджаецца ростам парушэнняў фінансавай дысцыпліны, гаспадарчых і службовых злачынстваў работнікамі многіх прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый. Нездавальняюча арганізаваны ўлік і захаванасць грашовых сродкаў і матэрыяльных каштоўнасцей, не выконваюцца патрабаванні падатковага заканадаўства. Усё гэта дэстабілізуе сацыяльную і эканамічную сітуацыю ў рэспубліцы.

У мэтах павышэння адказнасці кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і органаў дзяржаўнага кіравання за проціпраўную дзейнасць, а таксама эфектыўнага рэгулявання і кантралявання дзейнасці суб'ектаў гаспадарання Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Міністэрству юстыцыі, Міністэрству ўнутраных спраў па ўзгадненню з пракуратурай у месячны тэрмін прадставіць у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясенні ў заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь змяненняў і дапаўненняў, накіраваных на ўзмацненне адказнасці за гаспадарчыя і службовыя злачынствы.

2. Міністэрству рэсурсаў па ўзгадненню з Дзяржаўным камітэтам па прамысловасці і міжгаліновых вытворчасцях, Міністэрствам юстыцыі і Дзяржэканомпланам у месячны тэрмін вызначыць парадак ліцэнзавання дзейнасці па арганізацыі, ажыццяўлення біржавых таргоў, правядзенню кірмашоў і аўкцыёнаў.

Унесці адпаведныя змяненні ў пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 22 верасня 1992 г. № 573 (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1991 г., № 29, арт. 352; 1992 г., № 26, арт. 493).

3. Для спынення неабгрунтаванага завышэння цэн, якое з'яўляецца вынікам шматразовага перапродажу прадукцыі і тавараў, выраблямых у рэспубліцы, устанавіць гранічны ўзровень перавышэння свабодных аптовых і рознічных цэн над адпускнымі цэнамі прадпрыемстваў-вытворцаў 30 працэнтаў (незалежна ад колькасці дагавораў куплі-продажу). Дзяржэканомплану, Міністэрству фінансаў і Міністэрству ўнутраных спраў распрацаваць механізм кантролю за рэалізацыяй гэтага даручэння.

4. У выпадку недастачы, крадзяжу, наўмыснага знішчэння або псавання дзяржаўных матэрыяльных каштоўнасцей урон вызначаецца па дзеючых свабодных цэнах, якія склаліся на дзень яго выяўлення. Пры гэтым кошт каштоўнасцей, набытых за замежную валюту, вылічваецца зыходзячы з камерцыйнага курса рубля да замежнай валюты, устанаўліваемага Нацыянальным банкам. Па матэрыяльных каштоўнасцях, на якія ўстаноўлены рэгулюемыя цэны, урон вызначаецца па гэтых цэнах, павялічаных на суму датацыі.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

РЭЗАНАНС

# Аб беззаконнасці ў ЭВА «Задняпроўскае»

**(«ЗВЯЗДА», 8 кастрычніка 1992 г.)**

8 кастрычніка г. г. у нашай газеце з'явілася пісьмо пад некалькі лапідарнай назвай «Аб беззаконнасці ў ЭВА «Задняпроўскае», адрасаванае С. С. Шушкевічу, В. Ф. Кебічу і старшыні Кантрольнай палаты В. А. Саковічу. Пад ім стаяла 717 подпісаў работнікаў аб'яднання, што ўжо само па сабе сведчыла аб сур'ёзнасці становішча.

Нагадаем перадгісторыю. 4 жніўня 1992 года адбылося пасяджэнне Кантрольнай палаты, дзе дэталёва былі разабраны проціззаконныя дзеянні дырэктара ЭВА «Задняпроўскае» Ю. Г. Савіцкага. У прыватнасці, было ўстаноўлена, што ён за тры гады парушыў чатыры законы Рэспублікі Беларусь. Няма сэнсу пералічваць усе махінацыі Савіцкага. Дастаткова прывесці эпізод з СП «Віталія», якому дырэктар перавёў 3,5 мільёна рублёў з прыбыткаў саўгаса, прычым без ведама работнікаў гаспадаркі.

Ужо пасля пасяджэння Кантрольнай палаты, аб выніках якога калектыў даведаўся чамусьці толькі з газет, Ю. Г. Савіцкаму быў выказаны недавер. Калектыў патрабаваў прыцягнення да крымінальнай адказнасці асоб, вінаватых у растранжырванні дзяржаўных сродкаў.

Ну і?.. 8 кастрычніка было надрукавана пісьмо з «Задняпроўскага», а 15 кастрычніка — пастанова Савета Міністраў «Аб мерах па выкананню рашэння Савета Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь ад 4 жніўня 1992 г.» Мы, уласна, не крыўдуем, што яно надрукавана толькі ў «Белорусской ниве». Але падазраваем, што калектыў «Задняпроўскага» зноў апынуўся апошнім і проста ў вочы не бачыў гэтай пастановы. Напрыклад, таму, што былі званкі і людзі цікавіліся: чаму Савіцкі працягвае працаваць? Самі не ведаем, бо ў пастанове сказана: «Лічыць немэтазгодным выкарыстанне Ю. Г. Савіцкага на пасадзе дырэктара племсаўгаса «Задняпроўскі». «Рашэнне прынята», — пацвердзілі ў Кантрольнай палаце.

Пройдземся, аднак, па пастанове. Племсаўгас «Задняпроўскі» зарэгістраваны ў якасці дзяржпрадпрыемства. Віцебскаму аблвыканкому загадана прыцягнуць да адказнасці намесніка старшыні аблвыканкома В. П. Андрэйчанка і старшыню Аршанскага райвыканкома М. М. Веславухава, даслоўна «за незабеспячэнне выканання рашэнняў Саўміна па фарміраванню ўласнасці рэспублікі і ахове спажывецкага рынку» — першага і «за парушэнне заканадаўства пры рэгістрацыі племсаўгаса «Задняпроўскі» — другога. Указана міністру сельскай гаспадаркі Ф. У. Мірачыцкаму і звернута ўвага старшыні Дзяржкамітэта па знешніх эканамічных сувязях У. В. Радкевіча. Прадугледжана нарэшце разабрацца з СП «Віталія» і вырашыць пытанне аб арганізацыі яго работы ў адпаведнасці з заканадаўствам. Мінсельгаспроду даручана прыняць меры па вяртанню ў бюджэт страт, якія яму нанеслі дзеянні племсаўгаса пры раздзяржаўленні ўласнасці і прыватызацыі жылля. Вось такія справы.

Кантроль за выкананнем пастановы быў ускладзены на ўпраўленне па справах сельскай гаспадаркі і харчавання Саўміна. Мы паспрабавалі высветліць становішча да канца і пазванілі туды. На жаль, многа мы не даведаліся. Галоўны спецыяліст упраўлення В. П. Жураўскі паведаміў, што: 1) ці звольнены Савіцкі — сказаць не можа, гэта справа Міністэрства сельскай гаспадаркі, бо яно з ім заключала кантракт; 2) хто, як і ў якіх памерах будзе кампенсаваць страты — гэтаму было прысвечана пасяджэнне Віцебскага аблвыканкома, дадзены адпаведныя даручэнні службам. Размер страт высвятляецца. Пасля гэтага Васіль Паўлавіч спытаў, хто звоніць і па чыйму распараджэнню. Што звоняць са «Звязды» — не паверыў. І рэзюмаваў: без дазволу начальства такую інфармацыю не даю. Толькі, так сказаць, пры прыватнай сустрэчы.

Можна было, канешне, і паехаць, чаму ж не? Але неяк крыўдна стала за газету. Гутарка ідзе не аб дзяржаўных сакрэтах, не аб ядзернай зброі, а толькі аб пастанове Савета Міністраў, абнародаванай у друку. І ўсё, што мы хацелі, — даведацца, як яна выконваецца. І калі супрацоўніку Саўміна пазвоніць нават чалавек з вуліцы, то чаму б і яму не сказаць?—у нас кожны мае права на любую інфармацыю, калі яна не з'яўляецца дзяржаўнай ці ваеннай тайнай. А па-другое, такой «сакрэтнасцю» ставіцца падножка ўраду, які зацікаўлены, каб яго пастановы ведалі людзі. Ці не так?

Прабачце, Васіль Паўлавіч, але ў нас складваецца ўражанне, што хтосьці не хоча шуму вакол гэтай справы. Калі гэта не так—абвергніце.

Прабачэнні і нашым чытачам. Як гаворыцца, чым багатыя.

